





Язэп Палубятка

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Антон Пятровіч Крыніца не быў набожным чалавекам і да гэтага часу ніколі не сумняваўся ў адсутнасці Бога. Для яго было што Бог? што супастат — усяроўна, але прыпёрты, як кажуць людзі, абставінамі, ён вырашыў адступіць ад сваіх строгіх прынцыпаў ваяўнічага атэізму і звярнуцца да гэтага "яснавяльможнага пана" з просьбаю ... Не! Не! З малітваю. Усе ж вернікі звяртаюцца да бога з малітваю. І яму здалося, што Бог у гэты момант забыўся пра голых і босых, пра жабракоў, галодных, халодных, калек, хворых, нават не звяртае ўвагі на папу Рымскага і патрыярха Усея Русі, а слухае толькі яго аднаго: самага няшчаснага, самага гаротнага, бедалагу з бедалаг — Антона Пятровіча Крыніцу. Яму яшчэ здавалася, што яго голас у гэты момант гучыць у вушах Бога значна мацней, чым галасы іншых людзей, якія звяртаюцца да ўсявышняга па дапамогу, абарону, у пошуках справядлівасці, праўды, падтрымкі, аб літасці.

Першы сакратар ураз забыўся пра ўсе свае антырэлігійныя ўчынкі (знішчаныя ў раёне па яго загаду цэрквы, касцёлы, капліцы, спілаваныя на прыдарожных магілах крыжы) і стаў рэлігійным фанатыкам, які пад час малення губляе розум, уваходзіць у экстаз і ўсё зямное ды грэшнае для яго не існуе.

Маліўся ён зацята, ад шчырага сэрца, як бацюшка ў дзень сваёй першай службы ў новым прыходзе.

Маліўся, як умеў. Маліўся, як навучыў яго наш айчынны кінематограф, бо ён, Крыніца, нідзе болей, акрамя кіно, не бачыў, як сапраўды моляцца людзі і ніколі не чуў сапраўдных малітваў, калі не браць да ўвагі яго партыйныя казанні: — Божа! Злітуйся, Божа! Ты ўсё можаш! Усё ва ўладзе Тваёй. Ты ўсё ведаеш. Адкажы, Божа! Калі ўжо нашыя людзі будуць задаволены ўсім, калі іх вантроба будзе пад завязку набіта ежаю, калі яны ўдосталь нацешаць сваю прыхамаць, калі яны перастануць пісаць скаргі, даносы, узводзіць на мяне паклёпы. Божа, адкажы! Я табе за гэта ... бутэльку "Напалеона" пастаўлю. Божа -а! ..

На тым малітва Крыніцы скончылася. Ён змоўк і прыслухаўся. Цішыня. Не чуваць малінавага звону. Не трубяць анёлы свае пераможныя песні ... І Бог маўчыць. Ні гу -гу!

Тады Антон Пятровіч вырашыў паўтарыць сваю малітву яшчэ раз і паўтарыў, а ў канцы паабяцаў падарыць Богу сваю чорную "Волгу".

"Хіба шкада! Усё раўна не новая. Калі застануся першым сакратаром, дык сабе пяць машын здабуду".

Скончыў. Прыслухаўся . Цішыня. Толькі ледзь чутны шоргат і ўсхліп крануў яго слых. І зноў усё аціхла.

"Беражонага Бог беражэ!" — падумаў пра сябе першы сакратар райкама партыі, злажыў, як нябожчык, рукі на грудзях, заплюшчыў вочы, моцна застагнаў і стаў маліцца далей.

— Калі ўжо мне, беднаму чалавеку, будзе спакой на нашай зямлі. Божа, зрабі так, каб ...

Тут Крыніца заўважыў, што ў палаце ёсць яшчэ нехта. Ён расплюшчыў адно вока і ўважліва паглядзеў. Так і ёсць — чалавек, і даволі дзіўнага выгляду: сівая барада, сівая галава і нешта доўгае накінута на плечы — ці то плашч, ці то балахон.

Хіба добра ўсё разгледзіш адным вокам!

Хто гэты незнаёмец — Бог? У Крыніцы не было ніякага сумнення.

"Гэта маё выратаванне", — узрадаваўся ён і тут жа разгубіўся, бо не ведаў, як трэба звяртацца да самога Бога. Як зваць яго.

Для Антона Пятровіча ўсе людзі былі таварышамі. Называць незнаёмца такім чынам ён усё ж палічыў вялікай рызыкай: можа пакрыўдзіцца. Сказаць Богу "грамадзянін" у Крыніцы не паварочваўся язык. Несур'ёзна. Які ж ён грамадзянін? Ужыць слова "пан" было ніжэй яго партыйнай годнасці. Калі ён сам зрабіўся панам, то з усіх трыбун і на ўсіх нарадах гарлапаніў, што ў нас усе роўныя.

Першае імя, якое ўспомніў Крыніца — Бахус. Добры бог, але не той, які яму патрэбны зараз. Потым успомнілася імя Зеўс, але неразлучнае з ім словаспалучэнне "у старажытнагрэцкай міфалогіі", патушыла агеньчык надзеі. Першы сакратар райкама партыі валодаў вялікімі гістарычнымі ведамі і таму прыпомніў яшчэ Пяруна. Але ўсходнеславянскі паганскі бог адразу страціў яго давер.

У час роздуму Крыніца на некалькі хвілін заплюшчыў вока, але калі расплюшчыў зноў, то ўбачыў, што гэты незямны прывід наблізіўся да яго ... спыніўся ля самага ложка ... стаіць і шморгае, як малое дзіця, носам.

З грудзей першага нечакана вырваўся ўздых.

— О, Божа!

... І цуд! Адбыўся цуд! Бог загаварыў з ім ... Нетаропка, разважна, павучальна. Усё, як належыць усявышняму.

— Ах, цяпер табе Бога падавай, грэшная твая душа!

— Вінаваты ! Вінаваты! Злітуйся!

— Літасці просіш? А шкадаваў ты тых, каго без віны караў...

— Вінаваты ... Але будзь справядлівым, Усявышні, выслухай...

— А ты сам усіх слухаў, да ўсіх быў справядлівы?

— Вінаваты, каюся!

— Ты ўсё сваё жыццё карыстаўся чужою працаю. Абіраў каго толькі мог ...

— Пакінь на былой пасадзе. Усё буду рабіць па справядлівасці. Абяцаю. Прысцябаеў выганю. Усё сваё дабро людзям раздам ...

І ў знак таго, што ўсё сказанае ім будзе здзейсна, Крыніца перавярнуў сумку і ўсё, што знаходзілася ў ёй выпала на падлогу. Бутэлька з армянскім каньяком прыкацілася прама да ног Нічыпара Кузянкова. Ён, як толькі пабачыў бутэльку, адразу забыўся пра патрэбу, з якой прыйшоў да першага сакратара. Вартаўнік-конюх хуценька схапіў яе, і ўжо ніякая сіла не магла прымусіць яго вярнуць падарунак грознага ўладара.

Крыніца працягваў гаварыць. У голасе яго — поўная безнадзейнасць. Але калі ён пабачыў, што невядомая істота падняла з падлогі грэхаводнае і крахаборнае зелле, то сам, не ўстаючы з ложка, дацягнуўся да дзікавага кумпяка, які ляжаў побач, падняў яго і падаў.

— Вазьмі ... Вазьмі ды раздай галодным і жабракам ... Скажы ... Усім скажы, што Антон Крыніца нічога для людзей не шкадуе ... Ён апошняе аддасць ім ...

Незямны прывід узяў кумпяк, але далей стаў паводзіць сябе, як самы звычайны чалавек: знік і не прамовіў ні слова.

Калі Крыніца скончыў гаворку і на хвіліну да яго вярнулася свядомасць, то ён убачыў раскіданыя па палаце свае рэчы, абглыданую качку, дзве пустыя бутэлькі, каўбасу.

"Усе адвярнуліся ад мяне!"

Ад гэтай думкі яму зноў стала блага.

Няма на гэтай зямлі паратунку Крыніцы. Ніхто не заступіўся за яго, ніхто не працягнуў яму рукі дапамогі. Не быць яму болей першым сакратаром райкама партыі. Не быць — а так хочацца, і ўраз ён адчуў, што яго жыццё згубіла ўсякі сэнс. Страчана такая пасада — і няма чаго жыць далей!

Ён сёння ўжо другі раз — цяпер канчаткова і беспаваротна — злажыў рукі на грудзях і без стогнаў, без вокання, без цяжкіх фізічных мук адышоў у іншы свет з вялікаю надзеяю на светлае начальніцкае жыццё там, у раі, і на пасмяротную рэабілітацыю з абавязковай пастаноўкай помніка тут, на гэтай грэшнай зямлі, якая расцвіла на яго садовым ўчастку, і то дзякуючы вялікім намаганням хаўруснікаў.

XVII

Доктар Астапчык закончыў пісаць гісторыю хваробы зусім здаровага чалавека, паклаў на стол ручку і на хвіліну расслабіўся: справа зроблена. Зроблена чыста — ніхто не падкапаецца. Упершыню ў сваім жыцці Сяргей Астапчык разважаў практычна: "Я прымушу яго стрымаць абяцанне. Усё ў маіх руках ..." Каб адчуць, што гэта іменна так, ён, нават, сціснуў пальцы ў кулакі. Атрымалася вельмі добра і сам сабе Сяргей, нібы вопытны капітан, дадаў: "Так трымаць".

Заставалася толькі адна дробязь — устаць і занесці амбулаторную картку ў аддзяленне, дзе ёй і належала быць.

Гэтаму маленькаму ўчынку не суджана было здзейсніцца. У пакой зноў ўварваўся галоўны ўрач райбальніцы. Ён меў раз'юшаны выгляд, але па яго паводзінах было відаць, што ён на хвіліну разгубіўся. Кабінет, у якім урач Астапчык прымаў хворых, быў з паўночнага боку, і таму сюды ніколі не заглядвала сонца, а пры выключаным асвятленні тут заўжды было шэра. Чорныя акуляры зусім засланялі Улановічу святло, і каб што-небудзь пабачыць, прыйшлося зняць іх.

Спарцмен быў добрым мастаком. Партрэт Улановічу ён "размаляваў удала": чырвоныя ад крыві вочкі-зоркі мелі вельмі страшны выгляд. Яго позірк напамінаў позірк людаеда, які назіраў за сваёю ахвяраю з цёмнай пячоры.

Сяргей Астапчык адразу зразумеў, што яго зараз не проста будуць трэсці, а будуць біць і, магчыма, яго галавою прабаваць на моц мураваныя сцены. Медыцынская сястра таксама мела такую думку і таму хуценька падбегла да шкляной шафы і ўшчарэпілася за яе абедзвюма рукамі.

Доктар схапіў са стала картку і падаў свайму грознаму начальніку, каб хоць неяк зменшыць яго гнеў.

— Усё гатова. Усё напісана.

Галоўны ўрач чамусьці не ўзрадаваўся такой пунктуальнасці свайго падначаленага, а наадварот, яшчэ болей раззлаваўся. Ён выхапіў з рук Астапчыка амбулаторную картку, нават не зазірнуў у яе, а адразу разарваў на дробныя кавалачкі, шпурнуў іх на падлогу і стаў таптаць нагамі. Таптаўся доўга, радасна, з істэрычным натхненнем, быццам тыя паперкі маглі прынесці яму вялікую бяду, гора ці страшнае няшчасце. Гэта была асабістая помста галоўнага ўрача райбальніцы Улановіча першаму сакратару райкама партыі Крыніцы.

Рытуальны танец абарыгена з Малых Антыльскіх астравоў у выкананні Сцяпана Сцяпанавіча Улановіча працягваўся не менш пяці хвілін. Ад шалёных скокаў ён прытаміўся, упрэў, а гнеў яго зменшыўся. Трэсці свайго падначаленага галоўны ўрач не стаў, але тым не менш выгаварыўся:

— Ты мне болей такім глупствам не займайся. Паглядзі, колькі да цябе хворых прыйшло. Ты ж клятву Гіпакрата даваў, Кляўся, што будзеш дапамагаць ім. А ты? .. Ты забыў гэтыя святыя словы і дзеля выратавання прахвоста ды злодзея сядзіш тут, марнуеш час і псуеш паперу. У -у! .. Глядзі у мяне! — і для большага выхаваўчага эфекту патрос яшчэ кулаком.

Галаўны урач райбальніцы павесіў на нос акуляры і выйшаў.

Хірург Астапчык нарэшце пачаў прыём хворых.

Хворых сапраўды было шмат, але пяць гадоў урачэбнай практыкі навучылі доктара з першага позірку вызначаць, што трэба хвораму: бюлетэнь, лекі, парада ці проста доктар.

... І прыём пайшоў хутка. Хворыя са стосамі рэцэптаў на руках у адно імгненне выходзілі ад доктара, а наўздагон ім чулася патрабавальнае:

- Наступны ... наступны... наступны...

У час прыёму з доктарам пачало тварыцца нешта неверагоднае і дзіўнае. Ён раптам пачаў спяваць: не тое каб мармытаць сабе пад нос, як гэта робяць іншыя людзі, калі маюць цудоўны настрой. Не! У доктара быў кепскі настрой ды спяваў ён гучна, амаль што крычаў ... Праспявае ён так "Калінку" ад пачатку і да канца, затым старой бабцы пракукарэкаў, як курыца на бяду, "Вочы чорныя", і жанчына пачала падпяваць яму. Пасля зацягнуў пра Сценьку Разіна, які ўтапіў княгіню пасля таго, як пераспаў з ёю ноч: ці то не спадабалася яна яму, ці то век такі быў і норавы дзікія — разбярыся паспрабуй без пляшкі гарэлкі. Сумная вельмі песня і, магчыма, таму доктар спяваць яе да канца не стаў, а пачаў распавядаць анекдоты. Усе анекдоты былі прафесійнымі. Гледзячы на адну бабулю, ён зусім сур'ёзна запытаў у медсястры: "Лячыць будзем ці няхай жыве?" Васьмідзесяцігадовая жанчына не зразумела гумару, а хуценька выйшла з кабінета. Яна яшчэ столькі пражыць марыла. Другая бабка, наадварот, хацела, каб гэты вясёлы доктар пацешыў яе яшчэ чым-небудзь — прыйшлося выпіхваць бабку за дзверы. Адну маладую дзяўчыну, якая парэзала нагу, ён пагладзіў за калена і крыху вышэй, затым ушчыпнуў за бок і гарэзліва падмігнуў. Дзяўчыне вельмі спадабаўся прыгожы і вясёлы доктар, і яна пашкадавала, што не параніла другую нагу, бо тады доктар, напэўна, пагладзіў бы за другое калена і вышэй, ушчыпнуў бы за другі бок ды падмігнуў бы яшчэ раз.

" Які цудоўны гэты сімпацяга - доктар!"

Другая дзяўчына, у якой была паранена рука, не зразумела жартаў Астапчыка і здароваю рукою, што было сілы адвесіла яму аплявуху.

Медсястра падазрона стала глядзець на доктара. Ён ніколі не быў такім: заўжды сур'ёзны, стрыманы, ветлівы.

Апошнімі ў доўгай чарзе хворых і сімулянтаў былі два пацыенты: муж Наташы Галавач і муж Кацярыны Макейчык. Яны ўвайшлі ўдвух і спыніліся, як толькі пераступілі парог, нібы сваты перад першай бэлькай у хаце маладой.

— Слухаю вас, — сказаў доктар, бо пацыенты маўчалі.

Вясёласць у яго знікла, а на яе месца прыйшоў страх. Яму здалося, што яго намер сустрэцца сягоння з Наташаю выкрыўся, і муж Наташы са сваім сябруком завітаў сюды дзеля таго, каб паквітацца з ім.

Людзі, якія ўвайшлі, працягвалі маўчаць і сарамліва зыркалі то адзін на аднаго, то на доктара: ад гэтага страх у доктара толькі ўзмацняўся.

— Ну, слухаю вас. Слухаю.

— Мая жонка, Наташа, была у вас на прыёме і ...

Астапчыку здалося, што яго абдалі кіпнем і зараз кінуць у паломку з ледзяною вадою. Муж Наташы Галавач на хвіліну змоўк, і ў пакоі на хвіліну ўсталявалася немая цішыня, толькі доктар, нібы галодны воўк, клацаў зубамі.

— І мая жонка, Кацярына, была у вас на прыёме...

Астапчык заклацаў зубамі яшчэ мацней.

— ... яны казалі, што вы добры чалавек.

— ... казалі - казалі.

У доктара пачала трэсціся галава.

— Шаноўны доктар, — гаварыў муж Кацярыны Макейчык, які пазычаў Астапчыку капейкі. — Вы добры чалавек! .. У нас медагляд. Падпішыце нам амбулаторныя карткі.

— Па - дыдзі -це блі -жэй.

Мужчыны падышлі да стала і падалі доктару свае амбулаторныя карткі, упэўненыя, што той іх падпіша. Церпкі пах, які ішоў ад іх, вярнуў Астапчыку свядомасць, і яму сапраўды захацелася хутчэй пазбавіцца ад надаядных пацыентаў.

Зазваніў тэлефон, па якім ён, Астапчык, у прысутнасці медсястры вёў толькі службовыя размовы.

Званіла Наташа. Голас яе быў суровы і ўзбуджаны.

— Так, значыць, вы сягоння на спатканне сабраліся? — пачала яна размову без усякага ўступу.

— Што-небудзь здарылася? — Астапчык быў падобны на малое дзіцё, якое нават не ведае пра сваю правіннасць перад дарослымі.

— Нічога не здарылася. Усё нармальна, — адчувалася, што жанчына вось-вось заплача.

— Ты не маеш магчымасці прыйсці?

— Вядома, маю. Але мяне ніхто не кліча .. Я нікому не патрэбная-я, — у трубцы пачуўся ўсхліп.

— Я ж табе тэлефанаваў! Я ж цябе клікаў!

Далей Наташа гаварыла скрозь слёзы:

— Табе прыснілася. Ты Кацюньцы званіў. Гэтай дурніцы, а не мне. Гэта ты ёй прызначыў спатканне...

*(Працяг у наступным нумары.)*

Мікола Грышан

# Абрабаванне сярод белага дня

## (Апавяданне)

Мая мама часта прыгаворвала:

- Пагодзе не загадаеш, пагоду не ўгадаеш.

І гэта праўда.

А сёлетні год быў не без прыгод. Рана вясна прыйшла ў наш край. Першага сакавіка ні кроплі снегу на палях, а к абеду на бярозе над хатай Сяргея Рыбака з'явіліся шпакі. Хутка зазелянела трава, раней больш як на паўмесяца людзі выйшлі ў поле. У канцы мая заквітнела бульба, а ў пачатку чэрвеня ляснуў мароз да сямі градусаў, які і падкасіў бульбяныя букеты, Дасталося, акрамя бульбы і ўсяму на палях і агародах. Але бульбе найбольш. Асабліва ноч з 5-га на 6-га чэрвеня была лютай. А раніцай, пакуль мароз не зышоў, трымаліся бульбяныя сцяблінкі, толькі колер свой звыклы страцілі, а пасля дзесяці гадзін, звялі і апалі і кветкі, і лісце, толькі пачарнелыя струмбулікі тырчалі. Страшна было глядзець на іх, але што зробіш. Усе мы пад Богам ходзім. Хутка бульба ажыла, і ў сярэдзіне лета лашчыла вока людское сваім выглядам.

Помніцца: летам, у нядзелю, выйшлі камбайны жаць недаспелую пшаніцу

- Хто дазволіў такое марнатраўства? – пыталіся людзі.

- Галоўны аграном загадаў, - адзіны быў адказ. Можа таму аграному цюкнула ў мазгі: пасля жыта жаць зялёную пшаніцу. У тую ж нядзелю, пасля абеду, лінуў дождж, а пасля навальніца страшная. І так цэлы тыдзень. На нізкіх месцах усё змарнавалася ды і на высокіх бяда была. Спляжыла недажатыя палеткі. У разорах, а то і суцэльнымі палосамі стаяла вада аж да паловы восені. Сажалкі – і ўсё. Бульбу з тых месц не ўдалося дастаць, яна там згніла. Абязджалі тыя мясціны камбайнеры і трактарысты. Было такое не толькі на калгасных палетках а і на людскіх палосках. У многіх паграбы і бульбяныя ямы аказаліся напалову і болей пустымі.

Не паспелі людзі ўхапіць з поля бульбу, як выпаў снег, які пакрыў цэльнай коўдрай зямлю. Праляжаў ён два дні, а на трэці да абеду і следу яго не засталося. Ярка і прыветна засвяціла сонейка, паплыла ў паветры павуціна – прыкмета бабінага лета.

Апоўдні з тэчкай пад пахаю павольнаю хадою са школы, што месцілася на тым канцы вёскі, дзе стаяў спіртзавод, крочыць яе дырэктар Карп Іван Іванавіч. Якая там школа. Аднакамплектная пачатковая школа з пятнаццаццю вучнямі. Для яго дарога ад школы да дому даўжынёй у паўтара кіламетры была вядомая, як табліца множання. Кожны каменьчык, кожная ўпадзіна за дваццаць пяць гадоў былі абтупаны безліч разоў. Завяжы яму вочы, закруці на адной назе дзесяць разоў і пусці – і ён чуць не па адной лініі з дому да школы і назад трапіць. Вуліца ў вёсцы брукаваная яшчэ да першых саветаў. Такая людская была: цэлы дзень хай лье дождж, хопіць паўгадзіны пагоды і яна сухая. Праўда апошнім часам пакаверкалі яе, як і жыццё людское. У прыродзе існуе ўзаемасувязь паміж яе рознымі відамі і формамі. І ўсё пачынаецца ад самага вышэйшага, удасканаленага ці нават пераўдасканаленага яе віду – чалавека, які і сябе не аберагае, калечыць і ўсё навакол губіць, знішчае.

Пад час манеўраў танкі ямы гусеніцамі павырывалі. Глядзеў Іван Іванавіч на такое дзікунства, а сэрца крывёю аблівалася. А што зробіш? Не перагародзіш вуліцу, не станеш на сярэдзіне яе з расстаўленымі рукамі насупраць танку. І адзін не станеш, і ўдваіх не станеш, і цэлай вёскай таксама. Вунь у Валоўніках у час манеўраў хлопец выйшаў у сад, прытуліўся да яблыні, як наляцеў тут танк і нагу па калена аддушыў. Танкіст-вадзіцель заснуў, а танк на закругленні паляцеў проста ў сад на чалавека. Каб не яблыня, то і хату разбурыў бы.

І надумаўся Іван Іванавіч запісваць нумары танкаў і аўтамашын, а пасля, запыніўшы легкавушку, прад'явіў якомусьці палкоўніку патрабаванне прывесці вуліцу ў належны від, вымасціць камянямі. Во спіс нумароў вашых машын.

- Што?! Ты нумары запісваў! Хто табе дазволіў? У Амерыку перадаць надумаешся свой спісак! У асобы аддзел захацеў! Там табе такую дарожку вымасцяць – раве палкоўнік, не даючы магчымасці і слова сказаць у апраўданне.

Не на жарт перапужаўся настаўнік, а палкоўнік ляснуў дзверцамі і папёрся. А ямы на вуліцы пяском засыпалі.

Ідзе Іван Іванавіч з працы ў звыклым настроі. А тут каля брыгаднай канторы, ці, як людзі гавораць "вугалка", стаіць грузавая машына. Іван Іванавіч абмінае яе і чуе:

- Гэй, педагог, і зайсці не хочаш! Да цябе ў госці прыехалі – прымай – крычыць праз адчыненае акно ветэрынар Торбач.

- Які ты мне госць? – падумаў Іван Іванавіч, але, абмінуўшы машыну, пераходзіць на другі бок вуліцы і кіруе да брамкі. З канторы на ганак выходзяць Торбач, партсакратар саўгаса Чапля, старшыня сельсавета рабаваты Кулік і брыгадзір Вяроўчык. Ніхто з іх не п'яны, хоць працоўны дзень падходзіць да заканчэння. Значыць, яшчэ збіраюцца, будзе п'янка, ды не абы-якая, сабраліся такія, што ім адно падай. Аднаму толькі Торбачу, каб у галаве зашумела, з літар у чэрава трэба ўбабэхаць. Граміла, вялікан, два метры з гакам росту.

- І куды гэта іх нясе? – падумалася Карпу.

- Слухай, агітатар, парторг не задаволены табою: даўно абнаўляў баявы лісток, - не супакойваецца Торбач. – Не даносіш слова партыі да людзей.

- Змоўкні ты, дай з чалавекам павітацца – перабівае ветэрынара рабаваты Кулік, - нават слова сказаць не толькі партыйнае, як ты гаворыш, але і чалавечае, не дасі сказаць.

- То ў вас партыйнае слова не чалавечае, а можа якое сабачае, - у думках усміхаецца Кулік. – Эге, то ў вас нейкі хаос: адзін насядае, другі апраўдвае. Вам не я патрэбен.

- Ды я вось зрабіў накід гутаркі па Бліжняму Усходу. Чакаю брыгаднага сходу, - вітаючыся з кожным за руку, ці то паведамляе, ці то апраўдваецца за ўпушчэнне ў агітацыйнай рабоце Іван Іванавіч.

Усе накіраваліся да машыны. Першым крочыць брыгадзір Вяроўчык, ён адчыняе дзверцы кабіны, залазіць у яе. За руль садзіцца партыйны сакратар Чапля. Астатнія, Торбач і Кулік, палезлі ў кузаў. Іван Іванавіч, не ведаючы, што яму рабіць, застаецца ў варотах.

- А ты што там мнешся, як мядзведзь у клетцы, давай залазь, паедзем партыйнае мерапрыемства праводзіць, - нібы з паддзёўкай прамовіў Кулік.

- Валі да кампаніі, нам весялей будзе, - запрашае Чапля.

На машыне засмяяліся.

Іван Іванавіч нехаця лезе ў кузаў, прадчуваючы штосьці нядобрае.

Машына, праехаўшы вясковую вуліцу, у канцы вёскі паварочвае направа і выязджае на брукаванку, пракладзеную на пачатку 30-х гадоў. у 1932-34 гадах па ёй хадзіў аўтобус са Слоніма ў Навагрудак. Аўтобус належаў дзвюм сёстрам са Слоніма, якія нанялі шафёра, які штодзённа выконваў па рэйсу ў два бакі.

На аддаленні двух кіламетраў ад вёскі з левага боку быў лясок, туды вяла не шырокая дарога, на якую з'язджае машына.

Ля кабіны ў кузаве чуць ніжэй верху бартоў была пакладзена дошка. На яе селі Кулік, Торбач і Карп.

Торбач бярэ з рук Івана Іванавіча тэчку, расшпіляе яе, дастае падручнік беларускай мовы для трэцяга класа.

- Бе-ла-рус-кая мова, - па складах чытае ён. – Каму патрэбна твая беларуская мова? Хто на ёй размаўляе? Ды на ёй, як казаў прэзідэнт, думак шырока не выкажаш. Во глядзі, што мне мае свінні даюць, - і пачаў з кожнай кішэні то дзесятку рублёў, то дваццаціпятку даставаць.

Кулік засмяяўся. Засмяяўся і Іван Іванавіч.

- Твая праўда: са свіннямі мудрэй жыць, чым з людзьмі. Але ж гавораць так: з кім павядзешся, ад таго і набярэшся, - гаворыць Карп.

- Што?! – раўнуў Торбач. – Ды я цябе, такога разумніка.. – і запяўся: - у грабу бачыў разам з тваёю моваю!

- Ды яна не толькі мая, а мова маіх і тваіх бацькоў і дзядоў, дзяцей нашых. Пайдзі на магілу свайго бацькі і спытай, колькі разоў пяшком разам з маім бацькам у 39-м годзе восенню ў Гарадзішча схадзілі, каб адкрыць у нашай вёсцы сямігодку. Спытай у сваіх дачок, ці патрэбна была ім наша, гэта значыць, мая, а не твая свінячая мова для набыцця ім вышэйшай адукацыі. Чаго маўчыш? Адняло мову? То хутка зарохкаеш можа, так шырэй і дасканалей думкі выкажаш. Адно рохні, як папоўняцца кішэні грашыма.

Торбача ажно перасмыкнула. Кулік маўчаў, ён паглядаў то на аднаго, то на другога.

- А што з табою гаварыць, - махнуў рукою Торбач. – Лепш памаўчаць.

- Даўно пара, - адказаў Іван Іванавіч, ён адвярнуўся і стаў глядзець на лес.

За лесам раскінулася Шарэтнікава даліна, даволі вялікі роўны абшар поля, на якой сёлета была пасаджана бульба. Калісьці там быў хутар, і жыў на ім панскі ляснік, які на пачатку вайны прапаў. Жонка казала, што ноччу пастукалі ў акно, клікалі "хазяіна". І ён у хату не вярнуўся. У хуткім часе жанчына адгэтуль выбралася, дом пуставаў, а пасля вайны яго перавезлі ў суседнюю вёску пад школу, але і па сёння тое месца выдавала, што тут калісьці быў абжыты куток. На пачатку калгасаў брыгадзір выкарчаваў сад.

Сёння Шарэйкавая даліна –. абшырная роўнядзь чуць не з сотню гектараў, і сёлета частка яе была занята бульбаю, якую выбралі за тыдзень да снегу. Раней яе тут выбіралі камбайнамі, а сёлета яе выбіралі вучні сярэдняй школы, што месціцца на цэнтральнай сядзібе калгаса, і навучэнцы СПТВ, якіх у народзе празвалі хап-зайцамі. Палова ўраджаю засталася на полі, і людзі, у асноўным жанчыны з бліжэйшых вёсак, перадзябвалі палетак. За паўдня накопвалі да трох мяшкоў.

Вось і сёння даліна жыла, варушылася. Звон дзябак, смех жанчын трымаўся ў паветры над полем. Усе ўвіхаліся. Было каля чатырох гадзін пасля абеду. Хутка вечар. Мяшкі радамі, як вартавыя, стаялі па-за жанчынамі. Машына, як драпежны звер, падвываючы паўзла да капальніц. А тыя не звярталі на яе ніякай увагі, не разгінаючыся, працавалі. Лішнія тры мяшкі бульбы ў гаспадарцы таксама нешта значаць. А за чатыры – пяць дзён колькі яе прыбудзе ў паграбе.

Пад'ехаўшы да першых мяшкоў, машына спынілася і з яе саскочылі Кулік і Торбач, з кабіны вылез Вяроўчык. Іван Іванавіч таксама саскочыў з кузава. Чапля застаўся за рулём, ён матор не заглушыў. Кулік і Торбач падбягаюць да бліжняга мяха, завязваюць яго, хапаюць адзін за рог, другі за завязку і кідаюць у кузаў. А Вяроўчык кліча Івана Іванавіча на падмогу, але той не рухаецца з месца, яго нібы паралізавала. Да яго толькі цяпер дайшоў сэнс паездкі. Вяроўчык абхоплівае рукамі мех і прэ яго перад сабою. А на машыну узапхнуць не можа, чырванее ад натугі, сіпіць:

- Ну дапамажы хоць чуць чаго стаіш, як слуп. Карп плюнуў і адышоўся ад машыны.

- Падушыцеся вы тут з гэтаю бульбаю, - толькі і сказаў, а, аглянуўшыся, буркнуў: - Вось табе і агітацыя і прапаганда палітыкі партыі.

Ужо з дзесятак мяшкоў знесена на машыну, а жанчыны, не аглядаючыся, рыюць зямлю. Першай падняла галаву Гэля Хвалісёва. Глянула і ці то ад перапалоху, ці то ад здзіўлення раскрыла рот, а хоць бы слова сказаць не можа. Стаіць з адкрытым ротам і трасецца. А пасля прарвалася, што можа аж у вёсцы за тры кіламетры, пачулі:

- А, бабачкі, гляньце: хапун! Што ж яны, антыхрысты, робяць! Давайце бараніцца!

Крык быў такім нечаканым, што многія глянулі не на таго хапуна, а Гэлю. Не адразу да іх дайшоў сэнс ляманту.

- Давайце пабяжым!

- Адбяром, не дамо!

- Не дамо!

На бягу крычалі жанчыны, трымаючы дзябкі ў руках.

Гэля першай пайшла ў наступленне:

- Што вам крыві нашай мала, крывасмокі. Напіліся, нажэрліся, бэбахі паразносіла, і вам усё мала!

Брыгадзір схаваўся за машыну. Першым аказаўся Кулік.

- А і ты тут, - накінуўся ён на Гэлю. – Дзе цябе няма. У Лядзінах, помніш, як воўну крала, калі авечак стрыглі.

- І многа ты яе ў мяне знайшоў.

- Дзіва што знойдзе. Ён ведае, дзе шукаць: у трусах.

- Дык пайдзі і ў сваёй жонкі там столькі знойдзеш, - смеючыся кажа маладая кабета Маня Камарова.

- Да сваёй ён не спец. Вось у Алены Спасюцкай як пашукаў, што сыночка знайшоў, выліты, як сам: кучаравы, чорны і з рабаціннем на носе, - дабаўляе Антосева Верка, зграбная маладзіца ў спартыўным касцюме.

- Бабанькі, не шуміце. Вы вінаватыя. Народнае дабро нельга браць аднаму, яно належыць народу. Тое, што вы сёння робіце, злачынства, а злачынства караецца. Так сцвярджае савецкі закон, так вучыць нас партыя, кіраўніком якой у калгасе з'яўляюся я, - гаворыць Чапля.

- Якое яно народнае дабро, - уступае зноў у спрэчку Гэля, - гэта ж каб мароз чуць прыціснуў, то снег не растаў бы, паглядзеў тады б, што было з твайго народнага дабра. У вас ні сам не гам ні другому не дам.

- Самі яны то гам. Вунь Куліку цэлы прычэп бульбы і два прычэпы буракоў з Дудзічаў прыперлі, выгрузілі на двары. Увесь свет бачыў.

- Жонка яго сюды не прыйдзе з дзябкаю, на паню хварэе.

- Чаго трэшся аб машыну бокам? Выйдзі скажы, што няпраўда. Маўчыш, - гукаюць Куліку.

- А пастуха Антона, які гнаў каровы і падняў па дарозе пяць цыбулін, хтосьці, відаць згубіў, несучы з поля, аштрафавалі на 35 рублёў.

Кулік з-за машыны не паказваецца. Недалёка ад натоўпу стаіць Іван Іванавіч і пазірае на дзікую сцэну гвалту і бесчалавечнасці: ён дакарае самога сябе за тое, што звязаўся з гэтымі галаварэзамі.

- Іван Іванавіч, напішыце пра іх у газету, - просяць жанчыны.

- Напішу, абавязкова напішу, - абяцае Карп.

- І ты разам з імі знюхаўся, ну, пачакай, мы табе пакажам, - шыпіць з кабіны машыны Чапля.

Іван Іванавіч, нічога яму не сказаўшы, плюе ў яго бок і накіроўваецца да лесу. У галаве гуло, стукала ў скронях нібы малатком, пульс. Ён выйшаў з лесу на дарогу брукаванку. Тут яго абганяе машына, роўна з бартамі нагружаная мяхамі з бульбай.

- Гэй філосаф, глянь, колькі накапалі, - гукае Торбач.

- На чужое вы аматары, - думае Карп.

Машына скіравала ў вёску, а пасля яна з'явілася ў варотах спіртзавода.

Потым людзі казалі, што за здадзеную бульбу Кулікова кампанія атрымала дзевяць тысяч рублёў.

